*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*



# ШКЛОЎ-*інфо*

**№11** (113) чэрвень 2015

П А З Н А В А Л Ь Н А - А Н А Л І Т Ы Ч Н А Я  М Я С Ц О В А Я  Г А З Е Т А

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

**Ученые из Беларуси и США намерены реализовать первый совместный проект по сохранению пионов.** В рамках проекта будет проводиться, в частности, генетическая паспортизация пионов, которая «поможет восстановить молекулярный состав редких видов». Кроме того, сотрудничество предполагает обмен растительным материалом между ботаническими садами, поскольку, к примеру, в США есть образцы видов пионов, которые считаются давно вымершими на территории Беларуси, а также публикацию научных статей по этой теме.

**FIDH (Міжнародная федэрацыя за правы чалавека) і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр “Вясна” глыбока занепакоеныя з нагоды пагаршэння умоваў утрымання палітычных зняволеных Юрыя Рубцова, Мікалая Статкевіча, Мікалая Дзядка і Ігара Аліневіча.** У кантэксце ўзмацнення прыкметаў адлігі паміж Мінскам і Захадам, FIDH і ПЦ “Вясна” звяртаюць увагу міжнароднай супольнасці на пагаршэнне ўмоваў зняволення, няспынны ціск і жорсткае абыходжанне з палітычнымі вязнямі і заклікаюць улады Беларусі неадкладна і безумоўна вызваліць іх. Што ж, калі ў нас яшчэ і надалей будуць навогул палітвязні, хутчэй за ўсё ЗША ў хуткім часе занепакоіцца нашымі камарамі.

## АБ САЦЫЯЛЬНАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І СУТНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ

**Ужо дваццаць год вышэйшае беларускае чынавенства начале з А.Лукашэнка ўсё цвердзяць беларускаму народу, што ў нашай краіне створана такая сацыяльна-эканамічная мадэль, дзе ўсе пераўтварэнні, рашэнні і падыходы накіроўвюцца на забяспячэнне сацыяльнай справядлівасці, абарону і падтрымку працоўных.** У падобным стылі прагучалі словы кіраўніка краіны і 22 траўня 2015 года ў час яго выступу перад дэлегатамі VII з’езда Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі: *”Менавіта для чалавека працы створана наша палітычная сістэма, якая гарантуе мір і парадак, эканамічная мадэль, што забяспечвае магчымасць працаваць і зарабляць. Мы стварылі магутную сацыяльную сістэму - даступную медыцыну, адукацыю, жыллё, надзейную сацыяльную абарону”. “У гэтым галоўны сэнс і сутнасць беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі… І ад гэтых прынцыпаў мы не адступім ніколі”,* - дадаў ён, выступаючы перад прысутнымі на з’ездзе. Аб якіх жа гарантыях, сацыяльнай абароне і справядлівасці можа ісці гаворка? Бо ўсе мы добра ведаем аб магчымасцях нашай “бясплатнай” медыцыны для народа і наяўнасці спецыяльных медычных установаў для высокапастаўленага чынавенства і іх сямей, а тым болей – аб магчымасці працаваць і зарабляць прыстойныя заробкі. Але прапаную пакуль што гэтыя пытанні пакінуць па-за ўвагай і прыпыніцца на адным цікавым выказванні Лукашэнкі аб “стварэнні нашай палітычнай сістэмы”. Каб зразумець, што ж хаваецца за гэтымі яго словамі: “Менавіта для чалавека працы створана наша палітычная сістэма…”, прапаную чытачам звярнуць увагу на падзею, што адбылася напярэдадні з’езда прафсаюзаў - 21 траўня 2015 года. У гэты дзень была праведзена нарада па ўдасканаленні заканадаўства аб ахове і выкарыстанні зямель. На разгляд кіраўніка дзяржавы быў прадстаўлены праект указа, у якім вынесены прапановы па змяненні заканадаўства аб адабранні і прадстаўленні зямельных участкаў. Першасныя асацыяцыі звязаныя з самой назвай гэтага дакумента па стылю нагадваюць выказванне аднаго з вядомых персанажаў кінафільма “Вяселле ў Малінаўцы” – “будут грабить”. Бо якія б рашэнні па зямлі не прымаліся ці ў часы Савецкага Саюзу, ці ў часы незалежнай Беларусі, усе яны былі скіраваны на звужэнне права грамадзян на валоданне або карыстанне зямлёй. Так было ў часы

калектывізацыі, так адбываецца і зараз, калі калгасы ператвараюцца ў іншыя формы ўласнасці. У час нарады кіраўнік краіны нагадаў прысутным аб часах, калі старшыням абласных выканаўчых камітэтаў былі прадастаўлены паўнамоцтвы распараджацца землямі ў плане іх адводу пад будаўніцтва. Аднак надалей гэты парадак быў зменены. *"Чаму гэта адбылося, я гаварыў. Такога хаосу і непарадку на зямлі, як у той перыяд, у нас не было! Пачалі будаваць на ўрадлівых землях розныя склады, прадпрыемствы, ды і жыллё"*, - адзначыў ён. *"Мае адносіны да зямель, асабліва сельгаспрызначэння, ды і лясного фонду, вы ведаеце. Сёння ніякіх мерапрыемстваў у плане будаўніцтва і гэтак далей, звязаных з адвядзеннем зямель, без дазволу Прэзідэнта ў краіне не праводзіцца"*, - сказаў А.Лукашэнка ў час нарады. Але ж за часы "хаосу і непарадку на зямлі" беларускае чынавенства паспела ў значнай ступені павырашаць усе свае зямельныя пытанні. Ды і не толькі свае, а і сваіх родных і блізкіх. Нешматлікія незалежныя выданні краіны ў сваіх публікацыях тых часоў, ды і зараз, неаднойчы звярталі ўвагу на негатыўныя працэсы па незаконнаму адвядзенню зямлі. Нават былі выпадкі, калі па выніках публікацый у незалежных СМІ, мясцовыя ўлады вымушаны былі даваць "задні ход" па сваіх рашэннях. Як гэта было па факце незаконнага выдзялення ўчастку ў г.Магілёве пад будаўніцтва жылога дома былому старшыні Бялыніцкага раённага выканаўчага камітэту А.Ільянаву. Магілёўскімі ўладамі ўчастак быў адабраны ў Ільянава і вернуты дзяржаве. Але ж гэта былі адзінкавыя факты. Асноўная маса чынавенства, незаконна атрымаўшая ўчасткі, валодае землямі да гэтых часоў. З тае пары за апошнія 7 - 8 год многія з іх змянілі свае працоўныя месцы, а некаторыя і месцы пражывання. І ўжо па новаму колу яны паспяхова вырашаюць свае зямельныя пытанні. Найбольш, канешне, пашчасціла тым, хто па роду сваёй дзейнасці апынуўся ў Мінску. Тут каля 40 чалавек са згоды кіраўніка дзяржавы атрымалі ў "падарунак" надзелы па 12-15 сотак для будаўніцтва жылля ў Вяснінцы. Кожны з іх стаў уладальнікам участкаў з коштам ад 230 да 290 тыс. дал. ЗША. Яшчэ раней больш 50-ці высокапастаўленых чыноўнікаў атрымалі гатовае жыллё ў Драздах. Практычна ўсе яны за гэты час правялі прыватызацыю жылога фонду, аформіўшы свае дамы на жонак або дзяцей, і ўжо па якому разу, як "бяздомныя", вырашаюць зямельныя "праблемы". Уладальнікамі прэстыжных участкаў сталі прадстаўнікі сілавых структураў, вышэйшае чынавенства, народныя абраннікі. Найбольш прэстыжна-паспяховай у плане рэалізацыі жыллёва-зямельнага пытання стала пасада дэпутата Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па Шклоўскай выбарчай акрузе. Як былыя дэпутаты У.Канаплёў і В.Іваноў, так і дзеючы - А.Агееў , апынуліся ў гэтых спісах "шчасліўчыкаў". А што ж працоўны чалавек, за якога так "апякуюцца" кіраўнік краіны, народныя абраннікі, чынавенства? А працоўны чалавек апынуўся ў сітуацыі, як тая бабуля ў казцы А.Пушкіна – каля "разбітага карыта". Як, напрыклад, каля 5 тыс. маладых сямей, што пад 10 год стаяць у чэргах на атрыманне ўчасткаў для будаўніцтва жылля ў г.Магілёве. І перспектываў у іх па вырашэнні зямельнага пытання не прадбачыцца. Бо за гэты час змяніўся не адзін старшыня абласнога выканаўчага камітэту, і ні адзін з іх не сумеў або не захацеў аформіць неабходных дакументаў па адводу земляў пад будаўніцтва жылля на зацвярджэнне ў кіраўніка краіны. За гэты час у маладых людзей нарадзіліся дзеці, год праз 10 з'явяцца ўнукі, а аб прыстойным жыллі на сваім зямельным участку ім застаецца толькі марыць. Падобных фактаў па ўсёй краіне мноства. Вось і ўся сацыяльная справядлівасць, абарона і падтрымка працоўнага чалавека, у якой хаваецца галоўны сэнс і сутнасць беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі ў створанай "нашай" палітычнай сістэме. Дык для каго ж створана гэтая "наша палітычная сістэма"?

Намеснік старшыні БНФ
***Р.Кастусёў***

## Маніторынг грамадскіх арганізацый

У канцы 2014 года грамадзянскай ініцыятывай "Шклоўскі магістрат" быў праведзены маніторынг дзейнасці мясцовай улады і грамадскіх арганізацый, якія аказваюць на насельніцтва пэўны ўплыў. Ступень і эфектыўнасць гэтага ўплыву, у сваю чаргу, паказваюць, што толькі станоўчыя адносіны насельніцтва да тых ці іншых грамадскіх рухаў, аб'яднанняў, арганізацый дае ім шанец павесці за сабой больш-менш шырокія масы насельніцтва.

У выніку аналізу меркаванняў насельніцтва выявілася, што ў Шклоўскім раёне толькі рэлігійныя арганізацыі (праваслаўная царква і Касцёл) маюць пазітыўныя сацыяльныя ацэнкі. Прычым, як праваслаўныя веруючыя, так і каталікі амаль аднолькава ацанілі працу царквы і касцёлу. А ўсе астатнія грамадскія

аб'екты ўвагі рэспандэнтаў атрымалі адзнак "нездавальняюча" болей, чым адзнак "добра". Больш усяго негатыва атрымалі прафсаюзы, на якія, відаць, і ўскладаюць жыхары Шклоўскага раёна частку адказнасці за сваю матэрыяльную нястачу. На бяздзейнасць align="" рознагаліновыў прафсаюзаў зазначылі ў роўнай ступені работнікі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, служачыя (сярод якіх і мясцовыя чыноўнікі), настаўнікі. Грамадска-дзяржаўнай арганізацыі "Белая Русь" "добра" выставілі толькі 4,2% з выказаўшыхся жыхароў, да якіх можна з вялікім напінаннем далучыць яшчэ 5,6% рэспандэнтаў, паставіўшых ацэнку "здавальняюча". У выніку, толькі адзін шклаўчанін з кожных дзесяці выказаўшыхся цалкам ці хоць у якой меры станоўча ацэньвае працу гэтай арганізацыі. Давялося гутарыць і з сябрамі "Белай Русі", рэдка які з іх навогул ведаў прызначэннее гэтай арганізацыі, яе месца ў грамадскім жыцці раёна, акрамя ўдзелу ў праўладных мерапрыемствах. Наўрад ці пры такім раскладзе мясцовай уладзе можна разлічваць на рэальны палітычны ўплыў у раёне.

На трэцім месцы ў антырэйтынгу сацыяльных ацэнак размесцілася мясцовая апазіцыя - апазіційны рух атрымаў толькі 6,4% "добрых" адзнак і 12% "здавальняючых". Пры ўсіх хібах палітычных стасункаў, гэта удвая больш, чым у праўладнай структуры, фінансуемай з бюджэту. Дарэчы, амаль усе рэспандэнты ведаюць, што апазіцыяй з'яўляецца мясцовая суполка БНФ і з яе дзейнасцю звязваюць многія падзеі ў грамадскім жыцці ў раёне.

Нечакана для даследчыкаў негатыўную ацэнку атрымала і раённая арганізацыя БРСМ, якая вельмі часта ўдзельнічае ў розных мерапрыемствах, якія асвятляюцца мясцовай прэсай. Многія з маладзёвых лідараў даволі паспяхова працуюць па розных напрамках, але, відаць, гэтага недастаткова, бо якраз моладзь і незадаволена эфектыўнасцю іх працы. Папракаюць бээрсэмаўскіх функцыянераў у недастаковай увазе да якасці маладзёвага вольнага часу, адсутнасцю актыўнага ўздзеяння на мясцовыя ўлады для вырашэння праблемаў моладзі.

Болей прадуктыўна трэба працаваць ветэранскім арганізацыям, таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны, тым больш, што і ўлада паварочваецца да роднай мовы тварам.

*Г.І. "Шклоўскі магістрат"*

# Нашы соткі

З надыходам вясны беларусы зноў пацягнуліся на асабістыя "соткі". Пра "соткі" усе размовы, клопаты і завіханні. Прыгарадныя цягнікі напоўніліся пасажырамі ў турыстычным адзенні з сельскагаспадарчымі прыладамі і іншым скарбам, патрэбным у вясковым жыцці. Тут можна пачуць гаворку пра разнастайныя сарты агароднiны, кошт на набыццё гною, асаблівасці тых, або іншых мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў, і асабістыя прыёмы апрацоўкі глебы. Найбольш часты лексыкон, які можна пачуць сярод уладальнікаў сотак: *прападае на сотках, палівае соткі, апалола соткі* і, нават, *хай бы тыя соткі прапалі*. Яле найбольш заклапочаныя размовы аб надвор'е. Тэма надвор'я гэта асаблівая тэма. Калі нехта пачынае каменціраваць прагноз надвор'я, адразу ўсе прысутныя з трывогай прыслухоўваюцца, нібыта гэта паведамленні з франтоў вайны. Ніл Гілевіч — апошні з жывых народных паэтаў Беларусі ў сваёй новай кнізе «У віры быцця», якая напоўнена глыбокіх думак і назіранняў, зробленых паэтам цягам апошніх чатырох дзесяцігоддзяў, піша з гэтай нагоды: "Мы навучыліся жыць і карміцца з 4-х, з 6-ці, у лепшым выпадку — з 10-ці сотак. У сярэднім — з шасці. Мы — шасцісоткавая нацыя! Ура! Гэта наш нацыянальны маштаб. Больш ня хочам. Маштаб нашай душы. Пры маштабах Беларусі ў два, у пяць, у дзесяць разоў большых за маштабы многіх эўрапейскіх краін". Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя беларусы мералі запаведную зямлю маргамі, крыху раней – валокамі і дзесяцінамі. На тэрыторыі былой вёскі Рыжкавічы і зараз ёсць мясціна, якая да гэтуль так і завецца "маргі", а на чыгуначным перагоне ад станцыі Лотва да Магілёва існуе прыпынак "Валокі". Усё гэта – адзінкі яшчэ дамэтрычных сыстэм мераў, якія засталіся нам ад Вялікага Княства Літоўскага: дзесяціна крыху большая за гектар, морг – гэта прыблізна дзве траціны гектара. У савецкі час прыходзіць новая, драбнейшая мера – сотка, сотая доля гектара – 10 на 10 метраў. Але паколькі такі лапік зямлі для сялянскай нацыі – рэч несур'ёзная, слова замацавалася выключна ў множным ліку – соткі. Так пачалі называць уласныя прасядзібныя, а пазней і дачныя надзелы, а ніяк не калгасныя. Савецкая ўлада давала ў ва ўласныя рукі, як правіла, ад шасці да пятнаццаці сотак. Соткі – гэта працяг калектывізацыі, абеззямельвання гаспадара, гэта бізун і пернік усёй сацыяльнай палітыкі: нездарма стала замацаваліся выразы – ***прырэзаць соткі, абрэзаць соткі, або – адабраць соткі.*** На сотках і сёння выяўляецца ня столькі сялянскасць і працавітасць народу, колькі яго прага да выжывання. Славутыя "Шклоўскія агуркі" гэта не "забава" мясцовага люда, гэта была адзіная магчымасць мена-

віта **ВЫЖЫВАННЯ** ў складаныя часы папярэдняга стагоддзя. На асабістым прыкладзе ведаю, што толькі "агурковыя соткі", пад час "ліхіх" 90-х гадоў, і дапамаглі забяспечыць навучанне абодвых дзяцей у вышэйшых навучальных установах. І такія прыклады можна пачуць амаль ці не ў кожным шклоўскім сямействе. Але пры гэтым агуркові "бізнес" і ламаў людскія лёсы, і нават, забіраў у чалавека жыццё. І зараз, жывіцца з сотак прыходзіцца не толькі настаўнікам, інжынерам, лекарам ці пенсіянерам, але і былым старшыням Вярхоўнага Савета, чыя пенсія чамусці не падпадае пад індэксацыю. Не сакрэт, што і нацыянальная творчая інтэлігенцыя нажывала асабістыя мазалі на сотках той самай Лысай гары, што ўвайшла ў славуты твор 70-х гадоў. Аўтар з мноства красамоўных дэталяў апісвае пагалоўнае пісьменніцкае захапленне градамі. Але ж, заўсёды знойдуцца і тыя, хто выхад са складанага становішча пачне шукаць іншы, магчыма больш рызыкоўны, але без цяжкай працы на зямлі. Між тым, упэўнена можна сцвярджаць, што **СОТКІ** – гэта сынонім паняцця **СВАЯ ЗЯМЛЯ** пакуль яшчэ для большасці беларусаў канца XX і пачатку XXI стагоддзяў. ***Алесь Грудзіна***

# *А что у соседей?*

## Земельный вопрос

Земледелие было и остается сейчас основным занятием сельских жителей. С большим трудом отвоевав у лесов землю, приведя её в порядок, белорус всегда крепко за неё держался. Выражения «Земля-кормилица», «У кого хлебушко – у того и счастье» и сегодня в период повальной безработицы и нищенских зарплат в деревне очень актуальны. Так что для каждого жителя села земля – один из самых богатых ресурсов и главных источников доходов и вообще существования. С проблемой потерять земельные наделы столкнулись недавно жители **деревни Овсянка Горецкого района**. Более двадцати лет они на своих участках обрабатывали землю, вносили удобрения, регулярно и своевременно платили земельный налог. Но гром грянул средь бела дня – в этом году в деревне будут проводиться районные дожинки. И местные чиновники решили украсить фасад деревни, то есть на месте огородов (расположены они недалеко от автомобильной дороги) разбить газон, посадить декоративные деревья и кустарники, то есть оборудовать место для отдыха детей и молодежи. Самое интересное, что на то, чтобы люди освободили земельные участки, давалось всего пять дней. При этом письменного распоряжения никакого не было. Людей вызывали в сельский совет и вынуждали расписаться о том, что они с этим решением ознакомлены. Кроме того, председателем сельского совета было заявлено, что о компенсировании ущерба от потери садовых деревьев, кустарников, ягодных растений и другой сельхозпродукции, осенней обработки земли речи и быть не может. Взамен людям предлагались в пользование необработанные и неприспособленные для огородничества и садоводства участки земли, которые находятся далеко за пределами деревни. Чтобы получить урожай, их придется на протяжении нескольких лет освобождать от сорняков и окультуривать. И к тому же на этих удалённых участках процветает воровство сельхозпродукции. Но, видимо, чиновников это волнует меньше всего, так как никто из них лично на земле не работает. Как и не волнует их то, что в так называемом агрогородке Овсянка имеется очень много других объектов, в которые в первую очередь следовало бы вложить средства. И не по причине дожинок, а потому что они являются жизненно необходимыми. Во-первых, памятник жителям, погибшим в годы Великой Отечественной войны 1941-1945 годов. На протяжении многих лет он требовал капитального ремонта, но средств и желания отремонтировать его не нашлось. Накануне 70-летия Победы в Великой Отечественной войне четыре стелы из пяти были снесены, осталась одна, которая не сегодня-завтра тоже упадет. Фамилии погибших жителей на памятнике почти не видны, читаются с трудом. Говорить подрастающему поколению о том, что мы никогда не забудем подвиг героев и воспитывать патриотизм, и ничего для этого не делать – это кощунственно.Спортивный стадион – второй объект в деревне, который находится в плачевном состоянии: скамейки на трибуне сломаны, стены трибуны высотой более трех метров дали трещины и развалятся в любой момент. Кроме того, проезжие дороги, тротуары в деревне много лет ждут капитального ремонта, возле домов нет оборудованных детских площадок... Список можно продолжать и дальше. Земледельцы, у которых планируют изъять земельные участки, написали жалобу на действия должностных лиц в Могилевский облисполком, который поручил разобраться в данной ситуации Горецкому райисполкому. В полученном ответе из этой инстанции нет ни одного слова по существу жалобы: предоставить

письменное решение об изъятии участков, назначить компенсацию ущерба, привлечь виновных к ответственности по закону. Надеяться на то, что у чиновников когда-нибудь проснется совесть, конечно, абсурдно. Но заставить их читать и соблюдать государственные законы необходимо. В результате сложившейся ситуации напрашивается вывод, что делать они этого совсем не хотят. Или не могут? Тогда нужно ставить вопрос о соответствии их занимаемым должностям.

*Щербинина Ж*

# Круглянскія дзьмухаўцы

Гарадскі пасёлак Круглае шпаркімі тэмпамі рыхтуецца да абласных "Дажынак – 2015". Для належнай арганізацыі гэтага знакавага мерапрыемства з усіх крыніц фінансавання плануецца выдаткаваць 53 млрд. рублей. Грошы вялікія, але ж і фронт работ, развернуты па добраўпарадкаванню гарпасёлка, не маленькі. Мясцовым будаўнікам і камунальшчыкам давядзецца ў сціслы тэрмін правесці капрамонт сямі і бягучы рамонт фасадаў 12 шматкватэрных жылых дамоў, прывесці ў належны стан 34 дваравых тэрыторыі. Ужо зараз дарожнікі вядуць укладку асфальту па галоўнай вуліцы пасёлка. На жаль, грошай хопіць толькі на частковае добраўпарадкаванне ў цэнтры гарпасёлка – ні ўскраінныя тэрыторыі, ні, тым больш, вёскі ад мерапрыемства ўшанавання перадавікоў бітвы за ўраджай нічога не атрымаюць.

Ды што там вёскі – праблем у самім Круглым вельмі шмат, але яны з-за бяздзейнасці мясцовых улад прымаюць для мясцовых жыхароў глабальныя памеры. Напрыклад, колькі разоў уладальнікі жывёлы звярталіся ў райсавет за дапамогай адрамантаваць "козью кладку", якая перакінута праз мясцовую рачулку і без якой немагчыма арганізаваць паўнавартасны выпас жывёлы. Ламае кладку крыгаход, мясцовыя п'янчугі, неадэкватная моладзь, нарэшце, рыбакі. Мясцовыя жыхары выходзілі да ўлад з прапановай зрабіць на суседніх астраўках месца для адпачынку, але і яна не прайшла. Адзіная разумная парада ад улад – шукайце матэрыялы і рабіце самі. А што тут зробіш пенсіянерамі, калі гэтая кладка патрабуе не толькі грошай, але і інжынернай думкі з тэхнічным суправаджэннем.

Хтосьці можа сказаць, што гэта дробязь..Можа і так, але мясцовую ўладу характарызуе адпаведна. Ці возьмем іншы прыклад. У працэсе падрыхтоўкі да Дажынак мясцовыя чыноўнікі вырашылі, што шэраг гадамі апрацоўваемых пенсіянерамі агародаў можа непрыемна ўразіць высокіх гасцёў, якія ў Круглым прабудуць цэлых паўдня. Падумалі, прынялі рашэнне і праз колькі часу пайшлі пад нож цяпліцы, кусты бэзу, жасміну, руж..А колькі людзі папрацавалі над агародамі, колькі ўклалі працы і сродкаў. А што зараз? Ды нічога пакуль, толькі гнеў людскі.. Ты я ж пенсіянеркі звяртаюць увагу на іхні дом, які за 20 гадоў эксплуатацыі прыйшоў у вельмі кепскі стан, але на яго рамонт (хаця б які) няма грошай.

Няма грошай нават на рамонт каляпад'езднай тэрыторыі, дзе пажылыя людзі раз-пораз спатыкаюцца на калдобінах і, нават, падаюць. Ды адкуль тут будуць грошы, калі даходная частка раённага бюджэту на 66% сфармавана за лік трансфертаў з вышэйстаячых бюджэтаў (у Шклоўскім раёне, напрыклад, "толькі" на 54%). Нават і гэта не дапамагло – 2014 год раён завершыў з дэфіцытам у 7,3 млрд. рублёў. Пры гэтым паступленні ад штрафаў склалі амаль 900 млн. рублёў. На 2015 год распрацаваны бездэфіцытны бюджэт, але цудоўным чынам доля налогавых даходаў скарацілася з 28,7% да 24,6%. Праўда, каб кампенсаваць сваю чыноўнічую нягегласць, сесія раённага Савета зацвердзіла аб'ём штрафаў з мясцовага насельніцтва і суб'ектаў гаспадарання ў памеры ўжо 1 млрд. рублёў. Во, маштабы руплівасці чынавенства! На гэтым фоне неблага дапамаглі раённаму бюджэту прадпрыймальнікі – яны за год павялічылі долю ў даходнай частцы аж на 4,3%, хоць колькасць камерцыйных арганізацый у раёне за год і не змянілася.

Ёсць вельмі яскравы паказчык актыўнасці ўлады ў эканоміцы, які па важнасці на адным з першых месцаў у Беларусі – гэта аб'ем прыцягнутых прамых замежных інвестыцый. Дык вось, у Круглянскі раён замежных інвестыцый "прыцягнулі" за год аж 3,4 тыс. даляраў ЗША. Можа б у гэтым напрамку трохі папрацаваць, а не змагацца з пенсіянеркамі? Не ўсё гладка і з інвестыцыямі ў эканоміку раёну ў цэлым: у 2012 г. да ўзроўню мінулага году яны знізіліся на 29,4%, у 2013 г. – на 0,6%, у 2014 г. – на 9,4%. Але ж інвестыцыі, гэта падмурак годных дасягненняў у будучым, якога, гледзячы на эфектыўнасць працы мясцовага чынавенства, можа ў Круглянскага раёна і не быць.

У той жа час, і сельская гаспадарка па выніках 2014 года спрацавала не на поўную моц – валавай прадукцыі дабавілі толькі 3,1%, вытворчасць мяса буйнарагатай жывёлы, навогул, зменшылі на 1%. Дарэчы, у 1995 годзе круглянцы рэалізавалі мяса жывёлы і птушкі 3981 т. – за 20

мінулых гадоў гэты вельмі яскравы паказчык "эфектыўнага" гаспадарання ў раёне знізіўся ў 2,1 разы.

Ды і ўраджайнасць зерневых не на вышыні – толькі 45,4 ц/га. За апошнія тры гады яна вагаецца вакол ўсярэдненага паказчыка ў 45 цэнтнераў і, здаецца, пакідаць яго не збіраецца – няма для гэтага важкіх аргументаў, апроч статыстычнага, але ж і "прыпіскі" маюць сваю мяжу. Яйкамі, вытворчасцю свініны (за што раённае кіраўніцтва справядліва крытыкуюць у аблвыканкаме), бульбай раён не займаецца, па ураджайнасці ільну (7,1 ц/га) па выніках працы за 2014 год заняў перадапошняе месца (пасля Чаускага раёну) у вобласці, а Круглянскі ільнозавод аказаўся адзінай стратнай арганізацыяй раёну. Але ж, пры такой ураджайнасці ніякія дзяржаўныя інвестыцыі ў галіну ільнаводства мясцовым аграрыям не дапамогуць.

Здзівілі вынікі працы за 2014 г. прамыслоўцаў раёна – толькі 84% ад узроўню 2013 г. Вось бы дзе накінуцца ўсёй уладай на праблемы і падняць раён! А то, што ж гэта атрымліваецца: пачынаючы с 2012 году вытворчасць прамысловай прадукцыі змяншаецца з году ў год і немаленькімі тэмпамі – 2012 год да 2011 г. – "-" 35,8%, 2013 г. да 2012 г. – "-" 18,4%, 2014 г. да 2013 г. – "-" 16%. Здзіўляе пры гэтым той факт, што пры стабільным зніжэнні аб'ёму вытворчасці выкіды шкодных рэчаў у паветра павялічыліся ў Круглянскім раёне за апошнія тры гады ў 1,7 разоў.

Адназначна, мясцоваму кіраўніцтву трэба сур'ёзна заняцца эканомікай – рэальны заробак у раёне знізіўся на 1,2%, а гэта ўжо вельмі трывожны званочак у дзверы мясцовага кіраўніцтва. Трэба працаваць з людзьмі і дзеля людзей – за 20 гадоў шчыравання гэтай улады колькасць насельніцтва ў раёне зменшылася з 19800 да 14612 жыхароў, ці на 27%. І гэта ў мірны час! Кожны год з мапы раёна знікае аграгарадок у 230-250 жыхароў, паміраюць не толькі старыя людзі, але і моладзь, многа хто з'язджае з раёна, выбіваючы працоўна-кваліфікацыйны падмурак з будучага раёна. Ці зможа ўлада звярнуць працэс абязлюджвання раёна пакажа час, але сама па сабе дэмаграфічная сітуацыя ў раёне не стабілізуецца. Трэба шэраг дзеянняў у напрамку сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна на падставе, у тым ліку, і навуковых даследванняў, якіх так не дастае сучаснай уладзе.

Але не ўсё так і кепска ў раёне – мэтавы паказчык па энэргазбераджэнню склаў "-" 5,6% пры заданні, не паверыце, зноў такі "-" 5,6%. Ці не пара ўжо камітэту дзяржаўнага кантролю звярнуць сваю ўвагу на гарэзлівых чыноўнікаў ад энэргетыкі, якія, дарэчы, атрымліваюць ад сваёй "прадуктыўнай" дзейнасці неблагія прыбыткі, зноў-такі, з дзяржаўнай кішэні.

Нядаўна ў гарпасёлку з'явілася сучасная крама "Еўраапт". Падзея ў жыцці Круглага значная, але і трывожная – функцыяванне гандлёвага цэнтру прыносіць не зусім прыемны клопат мясцовым жыхарам. У першую чаргу гэта тычыцца маёмасці грамадзян і іх праў на зямельныя участкі. Як паказала практыка, мясцовыя чынушы не вельмі цырымоняцца з гэтым самым правам, бо па розным абставінам частка грамадзян-землеўладальнікаў яго проста не афармілі юрыдычна. Грамадзяне дзесяцігоддзямі карысталіся зямлёй, не плоцячы падаткаў, але і ў чыноўнікаў ёсць фармальнае права забіраць надзелы пад патрэбы гарпасёлка. Дык вось - адзін з аб'ектаў пільнай увагі мясцовай улады з'яўляюцца якраз агароды мясцовых грамадзян і на іх месцы скора можа у хуткім часе паўстаць аўтастаянка для пакупнікоў "Еўраапта". Жыхары аб гэтым пакуль не ведаюць, што таксама можа прывесці да сацыяльнага канфлікту. А можа ўсё-такі аформіць участкі належным чынам – і грамадзяне змогуць імі карыстацца на законнай падставе, і ў бюджэце пашырыцца крыніца сродкаў ад землекарыстальнікаў. Ды і аўтастаянка каля супермаркету можа пацярпець – не так ўжо і многа пакупнікоў з'язджаецца да "Еўраапту" на аўтамашынах – не тыя даходы ў мясцовых жыхароў, а турысты чамусці абміноўваюць Круглае ў сваіх вандроўках па Беларусі.

Відавочна, што раён сур'ёзна рыхтуецца да "Дажынак" і выдаткаваныя грошы будуць асвоены, а свята ўвойдзе ў гісторыю раёна. Ці не для таго мясцовая кіраўніцтва прадпрымае розныя захады для папаўнення бюджэту "Дажынак" – 25 лютага ў раёне па прапанове працоўных калектываў правялі "Дзень дармовай працы на працоўных месцах", а заробленыя сродкі ў добраахвотным парадку, згодна дадатку райвыканкама, пералічылі на пазабюджэтны рахунак выканаўчай улады. Не ўсе мясцовыя жыхары жадалі "добраахвотна" аддаваць свае грошы, але...знайсці новае месца працы ў раёне зараз практычна немагчыма. За апошнія гады ў Круглянскім раёне перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз (можа гэта і добра), райсельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цэглавы завод, Круглянская школа-інтэрнат, многія сельгаспрадпрыемствы рэарганізаваны, што таксама не дадало працоўных месцаў. Фактычна толькі будаўнічая ПМК-266 функцыянуе стабільна, але не можа "паглынуць" усіх жадаючых ў ёй працаваць. Па афіцыйных звестках, эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку

працаздольных грамадзян раёна складае амаль 2000 чалавек (кожны трэці з працаздольных), таму работнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў вымушаны цярпець "свавольствы" чыноўнікаў і трымацца за працоўныя месцы на любых умовах.

Зараз у рэчышчы падрыхтоўкі "Дажынак" высеклі хмызняк уздоўж шашы, разбурылі закінутыя хаты ў вёсках, зрэзалі дрэвы ў парку. Ва ўсякім выпадку, дарога да Круглага з боку Магілёва выглядае вельмі прыстойна – трэба аддаць належнае ўсім адказным службам. Але і ўражвае мноствам дзьмухаўцоў як на абочынах дарогі, на вясковых вуліцах, так і на многіх палетках гаспадарак. У бальшыні гаспадарак шматгадовыя травы па гэтай прычыне наўрад ці дадуць добры ўраджай. Многа гэтага расліннага "шкодніка" і ў горадзе – з такімі тэмпамі распаўсюду вельмі хутка раён можа пераўтварыцца ў запаведны край дзьмухаўцоў, якія запалоняць і без таго не так ужо і ўрадлівыя палеткі раёна.

Трэба адзначыць, што ўражанні ад наведвання раёна не зусім прыемныя, асабліва пасля гутаркі з пажылымі людзьмі, на патрэбы якіх мясцовыя ўлады не звяртаюць увагі. А многія ж з іх прайшлі праз ліхалецце вайны, працавалі ўсё жыццё, ды толькі наўрад ці гэта заслугі перад мясцовым чынавенствам.

Але ж ёсць у Круглым месца, дзе кожны мясцовы жыхар і госці адпачываюць душой. Вельмі прыемна, што ўсе суразмоўцы адзначалі працу мясцовай бібліятэкі. Дабразычлівыя і пісьменныя супрацоўнікі, крэатыўныя падыходы да працы з наведвальнікамі, утульнасць і спакой – ці не тое гэта месца, дзе трэба не толькі набываць веды, але і вучыцца працаваць? Усім.

***П.Мігурскі***

## Хотимский тунеядец

Много в государственных СМИ говорят и будут говорить (им за это деньги платят), что все те, которые имеют свою точку зрения по проводящейся в нашей стране политике, живут на подачки из-за границы. В последнем послании депутатам Палаты Представителям Национального Собрания Республики Беларусь таких людей президент называет **тунеядцами**. Я отношусь к категории этих граждан, потому что на протяжении многих лет не могу найти в **Хотимском районе** работу по специальности и согласно своим навыкам и опыту работы. Меня обвиняют в том, что я продался за тридцать серебряников. Однако это не так. Я живу за счёт своего труда, ведя натуральное хозяйство. Трудиться приходится очень много, здесь надо учитывать погодные условия, научные подходы, опыт других. Но, тем не менее, труд на земле – в радость. И хоть народная молва гласит, что на земле не будешь богатым, а будешь горбатым, я считаю иначе. Правильно распределяя время суток, применяя новые агротехнические методы работы на земле, всё новое и передовое, можно добиться неплохих результатов. Может, для кому-то покажется странным, но на протяжении 25 лет я не применяю никаких минеральных удобрений, а только продукты жизнедеятельности калифорнийских червей. Не буду говорить о полезности и необходимости от их использования, но то, что один килограмм таких удобрений заменяет 20 килограмм навоза и почва не засоряется семенами сорняков, хорошо аэрируется, а также не получает летальные дозы азота, дорогого стоит. Продукция, выращенная на этой почве экологически чистая, имеющая своеобразный вкус и запах, хорошо хранится и очень полезная для организма. В своём выступлении Президент отметил славгородских сыроделов и сказал, что люди, которые производят свою продукцию и реализуют её населению, не подпадают под категорию тунеядцев. Я уверен, что подхожу под статус работающего человека, как и многие мои коллеги. Тридцать курей, пятьдесят кустов роз, шесть ульев с пчёлами, с мая месяца овощи, с июля месяца – вишня, черешня, смородина, малина, теплица площадью 96 кв.м., а дальше: сливы, яблоки, груши, только трудись. И тружусь, сплю не более 4 часов в сутки и хорошо себя чувствую. А ещё есть лес, река – это ягоды, грибы, рыба. Всё это даёт от 3-4 миллиона белорусских рублей в месяц, мне – одному из представителей пятой колонны из сельской местности. Это не много, но достаточно, чтобы не стоять у церкви с протянутой рукой и просить милостыню. В Хотимском районе многие работники сельскохозяйственных предприятий получают гораздо меньше.

В прошлом году был очень хороший урожай яблок и деньги от их реализации помогали не только выживать самому, но и помогать таким же, как я. Защищать интересы людей в одиночку невозможно. На базе моей усадьбы работает общественная приёмная депутата «Гражданского договора» кампании «Говори правду». Это дает мне возможность не только популяризировать качество сельскохозяйственной продукции и новые агротехнические методы ее выращивания, но и говорить с людьми о их радостях и невзгодах, а также давать консультации и советы. Цена яблок, выращенной на моём участке, в полтора-два раза

дешевле польских, но у меня они без всякой химии и имеют хороший товарный вид. Перед новогодними праздниками я выезжал торговать в приграничный город Сураж Брянской области, покупатели был довольны, но… Но не обошлось без ложки дегтя: пришлось выслушать нотации в адрес белорусов и нашего президента за его братание с президентом Украины Петром Порошенко. Всяко бывает…

Многие могут посмеяться в очередной раз над моими причудами, но вместо страусов я развожу воробьёв. Опираясь на опыт Китая, я сделал вывод, что это самая достойная птица, которая трудится рядом с человеком на его блага. На протяжении зимы я их подкармливаю, делаю укрытия, и они как хорошие трудяги весну и лето не пускают в сад ни одного вредителя. Самое главное в нашей жизни – уметь умно и продуктивно работать, не надрываясь, с хорошим наст-роением, не завидуя другим, а учась и перенимая опыт лучшего и передового, и тогда ваш стол, стол ваших родных и близких будет изобиловать сытными и полезными продуктами. И не надо стесняться, стучите и вам откроют, только путём проб и ошибок можно найти истину. Ну, а лучше прочитать, услышать, спросить и, конечно, внедрить на своём приусадебном участке. Многие считают, что они всё знают и умеют, но как показывает практика – учиться надо всегда. Зато какую получаешь радость и удовольствие, когда видишь плоды своего труда.

Чтобы быть счастливым в этой жизни, надо жить в гармонии с людьми, природой, самим собой, а самое главное – чтобы с тобой был Бог.

***В.Коронкевич***

## «Крызісу ў нас няма, ёсьць пэўныя цяжкасьці», — магілёўскі чыноўнік

**У праблемах беларускай эканомікі вінаватыя суседзі, мяркуе намесьнік старшыні Магілёўскага аблвыканкаму Віктар Некрашэвіч.**

Карэс-пандэнту Свабоды ўдалося датэлефанавацца да намесьніка старшыні Магілёўскага аблвыканкаму **Віктара Некрашэвіча**, які ў мінулую суботу праводзіў «прамую лінію» з жыхарамі вобласьці. Пытаньне гучала так: «Ці мае выканаўчая ўлада вобла-сьці плян дзеяньняў па выхадзе эканомікі рэгіёну з крызісу і ў чым такія дзеяньні заключаюцца? У вобласьці затрымліваецца выплата заробкаў, затаваранья склады, уведзены няпоўны працоўны дзень на шэрагу прадпрыем-стваў». Адказ:«Вы задаяце такое пытаньне, нібыта на выканкаме. Я вам адкажу шчыра, што ёсьць праграма сацыяльна-экана-мічнага разьвіцьця рэгіёну. І тое, што ёсьць праблемы, як вы сказалі, з выплатай заробкаў, затаваранасьцю складоў, — на жаль, гэта праб-лемы сыстэмныя, то бок гэта праблемы нашых суседзяў. Ва Ўкраіне, вы ж ведаеце, ідзе вайна. У Расеі — наш асноўны гандлёвы партнэр, які мае ад 70–90 працэнтаў узаемасувязяў з нашымі прадпрыемствамі, — яны таксама праселі. Таму мы ў гэтай камандзе таксама маем праблемы, як і ў нашых суседзяў. Гэта першае. Другое. У нас выйсьце — гэта дывэрсыфікацыя рынкаў нашых прадпрыемстваў, каб прадаваць канкурэнтаздольную прадукцыю на іншыя рынкі, не традыцыйныя, умоўна кажучы. Калі, да прыкладу, „Бабушкіна крынка“ ў нас завязаная на 90 працэнтаў на Расею, то мы актывізуем дзеяньні гэтага прадпрыемства, каб яно прадавала прадукцыю і ў Эўропу, і ў Казахстан, і Кітай, і нават у Амэрыку. Таму ёсьць, у прынцыпе, комплекс мерапрыемстваў, якія могуць дазволіць на сёньняшні дзень выканаць той прагноз, які нам даведзены — 100,9% па году. Гэта працэнт прамысловай вытворчасьці, экспарт, і ў выніку — заробак і падаткі. Таму я ня думаю, што цяперашнюю сытуацыю можна назваць нейкім крызісам. Вы ж ведаеце, што крызіс у нас у галаве. Таму крызісу як такога ў нас няма. Ёсьць пэўныя цяжкасьці, зь якімі вобласьць, у прынцыпе, можа разабрацца, і Беларусь у тым ліку».

Кандыдат эканамічных навук **Пётар Мігурскі** не згаджаецца з аптымістычнымі прагнозамі Віктара Некрашэвіча. Ён лічыць, што рэгіянальная эканоміка ўступіла ў пэрыяд доўгатэрміновай стагнацыі. На думку экспэрта, чыноўнікі цяпер выкарыстоўваць праблемы ў суседніх краінах, каб схаваць пралікі ў стратэгічным плянаваньні беларускай эканомікі. «Мы дагэтуль падладжвалі сваю вытворчасьць пад расейскія рынкі, а гэта ўжо само па сабе непрадуктыўна, бо ўзровень спажываньня на Ўсходзе і Захадзе — розныя рэчы. Калі мы працуем на заходнія рынкі, то імкнёмся, каб прадукцыя была канкурэнтаздольная па якасьці і цане. А ў нас гэтага няма. У аснове нашых правалаў ляжыць палітыка нашага ўраду, якая скіраваная, у значнай ступені, на канфрантацыю з разьвітымі краінамі сьвету, таму мы і маем заканамерны вынік», — выказваецца эканаміст. Пётар Мігурскі зазначае, што вярнуцца на ранейшы ўзровень эканомікі ня ўдасца, бо сьвет зьмяніўся. «Залатога часу цяперашняй улады, які доўжыўся ад 2000 да 2008 году, ужо ня будзе», — лічыць ён. Варта цяпер казаць пра доўгатэрміновую стагнацыю, а мажліва, і пра эканамічную дэградацыю ўсёй краіны», — лічыць**Пётар Мігурскі**. http://www.svaboda.org/content/article/27047180.html

Рэдактар П.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 04.06.2015г.